# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня. Віленская вул. 33. Рэдакцыя адчынена: 11—1 штодня апрача сьвяточных дзён. | Цана кожнага нумэру 5 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаукай да хаты). Цана абвестак: 5 м. за радок пэтыту (на апошняй стр.). |
|---|---|

Год I. Вільня. Нядзеля 8 траўня 1921 г. № 6.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Хто да 20 мая не прышле падпісныя грошы на „Беларускі Звон“, той перастане атрымоуваць гэту часопісь.

Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 польск. мар.

# У Напалеонскую гадаўшчыну.

Векавы гадзіньнік часу вызваніў сто гадоў ад таго дня, калі здалёк ад свае Бацькаўшчыны, на скалістым востраве сьв. Галены, кончыў сваё бурнае і вялікае жыцьцё „Малы Капраль“—палонны Англіі.

Яго імя кідала нейкі дзіўны чар на маладыя душы. Усе, каму дорага была воля, ішлі пад наполенскія штандары і ахвярна аддавалі жыцьцё сваё з клічам на вуснах:

Vive l'empereur

І наша зямля дала Наполеону шмат сваей крыві. З беларускіх фальваркаў і засьценкаў моладзь тайком перабіралася праз кардон, каб станунь пад наполеонскімі знакамі і ісьці разам з ім туды, на ўсход, гдзе цемра, дэспотызм і няволя зьвілі сабе гняздо.

Бо Наполеон ішоў з клічам Вялікай Францускай Рэвалюцыі, якая першая дала грамадзянскія правы кожнаму чалавеку. Бо яна на сваім штандары выпісала вялікія словы аб брацтве, вольнасьці і роўнасьці. І дзяды нашы верылі, што кроў іхняя ня льецца дарма, што тут—і ў іхняй Бацькаўшчыне—разам з прыходам Наполеона пачнецца новае жыцьцё, жыцьцё вольных з вольнымі, роўных з роўнымі.

Надзеі ня зьдзейсьніліся...

На сьнягох Беларусі мёрзла вялікая армія і мо' няраз беларус у мундзеры літоўскага ўлана абтуліваў сваім плашчом паміраючага грэнадзера і сьніў свой апошні сон аб волі...

Наполеонская армія была разьбіта. Вялікі акт дэмократызму—аслабаненьне ад прыгону сялянства — спазьніўся на поўсталецьця. Гэткім чынам і наш беларускі селянін лішніе пяцьдзесят гадоў стагнаў у панскай няволі. Часы прыгону шмат спазьнілі і нацыянальнае ўсьведамленьне нашага народу. Панаваньне Масквы старанна забівала ўсялякія праблескі нацыянальнае работы. У 1863 гаду забараняецца нават беларускі друк. У той час, калі захад карыстаецца духовай спадчынай Францускай Рэвалюцыі, у Расеі праз усё XIX сталецьце гняце усялякую праяву волі абсолютызм і цемра, варожыя ўсякім дэмократычным ідэям...

Сто гадоў назад памёр Наполеон. Але засталася вялізнасьць яго думак і дзеі. Застаўся ўспамін аб Ім,—аб Ім, каторы нёс волю паднявольным і з мячом у руцэ нёс з Захаду на Усход вялікія здабычы Рэвалюцыі.

Ф. А.

## У справе беларускага тэатру.

Вось ужо мінула больш за 11 гадоў з таго часу, як пачаўшаеся беларускае адраджэньне выклікала патрэбу тэатру. Тагачасные беларускіе дзеячы зразумелі, што без тэатру—гэтай установы, якая, ў самай лёгкай і цікаўнай форме нясе масам духоўную страву і адначасна будзіць іх з нацыянальнага сну,—няма шырокай культурнае працы. Але там, дзе няма ні рэпэртуару, ні артыстычнага пэрсонэлю зрабіць адразу тэатр было трудна. Аднак энэргія і добрая ахвота беларускіх працаўнікоў на ніве адраджэньня свайго народу труднасьць гэту перамагла. У Вільні, гдзе тады быў цэнтр беларускага руху, ў Пецярбурзі, гдзе была сільная беларуская калёнія, якая складалася глаўным чынам з вучашчайся моладзі, ў Менску, куды хутка дайшла адраджэнская хваля з Вільні, а пасьля ў розных кутках на правінцыі—арганізуюцца, пачынаючы ад 1910 году, драматычные гурткі. Цяжка прыходзіцца ім працаваць: няма рэпэртуару. Прыходзіцца перакладаць драматычные творы з украінскай літэратуры, з польскай, з расейскай. Родная мова, пачутая са сцэны, спачатку ў несьвядомай беларускай інтэлігенцыі выклікае іронічную ўсьмешку, але аднак захоплівае сваей навінкай. Першые спэктаклі маюць характар больш этнографічны, чымсь мастацкі, і публіка, мерыць патугі беларускіх „артыстаў“ не сучаснай крытычнай меркай, а йдзе на беларускі спэктакль, каб пабачыць народные скокі, нацыянальныя вопраткі, пачуць беларускую песьню дый якісьці сьмяхотны верш Бурачка, сказаны дамарослым дэкляматарам.

Але ёсьць яшчэ другая публіка: час ад часу пападаюць на беларускую вечарыну сяляне. Тые са сьлязой у вачох глядзяць на сцэну, прагавіта ловяць кожнае слова і, захопленые нязвычайным відовішчам, ад шчырай душы паўтараюць толькі адно слова: „добра, добра!..“ І гэта самая цэнная, найдаражэйшая крытыка для маладых пачынальнікаў будаваньня роднага тэатру.

Беларускіе пісьменьнікі, ацаніўшы як сьлед вагу справы, пачынаюць пісаць тэатральные творы. Паяўляецца „Модны шляхцюк“ Каганца, „Паўлінка“ Купалы, пасьля ягонае-жа «Раскіданае гнязло», „Сягоняшніе і даўнейшые“ Буйлянкі. Гэта ўсё яшчэ вельмі прымітыўные творы,—тагачасная наша літэратура не дарасла яшчэ, каб даць больш вартастную з мастацкага боку драму ці камэдыю, але вось гэтая прымітыўнасьць мае сваю спэцыяльную вабнасьць, а публіка здаваліваецца таннымі эфэктамі і горача вітае кожны драматычны новародак.

Гэтак вось было нядаўна, дзесятак гадоў назад. Нядаўна, аднак д а ў н о ужо, даўно, бо ход беларускае справы праз гэты час зрабіў такі вялізны крок наперад, стварыў гэтулькі новых галін нашага жыцьця і пашырыў старые, што і тэатр, захоплены агульнай хваляй, далёка адыйшоў ад гэтага часу наперад.

У Савецкай Беларусі бальшавікі, даўшы фікцыю незалежнасьці, даюць аднак магчымасьць весьці шырокую беларускую культурную работу.

Тэатр у Менску, вышаўшы ўжо з фазы аматарскіх (любіцяльскіх) спэктакляў, выйшаў на шлях работы профэсыянальнай. Вельмі бедна аплачваючы сваіх чыноўнікаў (месячная пэнсія ад 5.000 сав. руб.)—на тэатр бальшавікі даюць вялізные грошы і артысты бяруць пэнсіі да 200.000. Аўтарскі ганарар за новые пьесы даходзіць да мільёна. Апавяшчаюцца конкурсы на тэатральныя творы. Тэатральнай трупе даюцца асобные вагоны

---

Францішк Аляхновіч.

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 1, 2, 3, 4 і 5).

ЯДЗЬКА. Але, але... гэта праўда, Паўліначка! Я сама гэта добра разумею, але што-ж я зраблю? што я зраблю!?

ПАУЛІНА. Ты пастарайся неяк ласкава растлумачыць яму усё гэта. Жана павінна мець уплыў на свайго мужа. Вось мой муж, напрыклад, ува ўсім, у кожнай драбніцы слухаецца мяне. Нічога ня зробіць, не параіўшыся раней са мной.

ЯДЗЬКА (з б о л я м). Ах! твой зусім інакшы чалавек!

ПАУЛІНА. Але ўсё-ж такі, як твой дастане ўжо гэтую службу, ты пастарайся угаварыць яго, каб ён гэтак не кідаўся людзём у вочы сваей беларускасьцю. Няхай сабе ў душы думае, што хоча, але навошта-ж заўсёды гаманіць аб гэтай Беларусі і ворагаў толькі сабе нажываць! Бо можа быць непрыемнасьць ня толькі твайму Васільку, але і майму мужу за тое, што протэжырываў такога чалавека.

ЯДЗЬКА. Я ўжо неяк пастараюся яго перапанаць. Раней было трудна, але цяпер-жа ён павінен мяне паслухацца. Цяпер у нас дзіця... Ен-жа павінен аб гэтым памятаць.

ПАУЛІНА. А вось a propos гэтага я таксама хацела з табой пагутарыць... Спаткалася я раз з Ягодзінскай, кіраўнічкай дзіцячага прытулку, гутарылі мы аб табе і вось яна сказала, што калі хочаш, дык твайго малога можна там у іх устроіць. Яму там будзе вельмі добра. Там вялікая чыстасьць—немцы аб гэта вельмі дбаюць, добрае малако, акуратны дагляд...

ЯДЗЬКА. А мне можна будзе там хадзіць?

ПАУЛІНА. Я пыталася. Ты можаш кожны дзень там хадзіць і сядзець, колькі хочаш... А то ў такой бядзе гадаваць дзіця!—я ня ведаю, скуль у цябе сіл гэтульки бярэцца!

ЯДЗЬКА. І я дзівуюся, скуль у мяне яшчэ сілы бярүцца.

ПАУЛІНА. За тое паглядзі на сябе, як ты выглядаіш! Ня мытая, не прычэсаная, абарваная—Бог ведае, да чаго падобная!

ЯДЗЬКА. Праўда, што я зусім ужо апуосцілася.

ПАУЛІНА. Ня трэба так, Ядзька! Пашкадуй

для раз'яздных спэктакляў па правінцыі. Артысты атрымоўваюць пайкі вышэйшай катэгорыі. У правінцыі арганізуюцца пры камісарыятах асьветы тэатральные сэкцыі. Толькі блага адбіваецца на разьвіцьці тэатральнай справы вузкасьць рэпэртуару. Выганяючы з тэатру „аджыўшае свой век буржуазнае мастацтва“, бальшавікі ўводзяць у рэпэртуар тэндэнцыёзнасьць, якая сьпіхае са сцэны лепшые творы, як „неадпаведные духу часу“, а ўводзіць бязвартные, але прыкрашэныя соцыяльнай ідэяй. Што датычыцца акторскае працы, дык адчуваецца ў рабоце „казёншчына“, няма подыху вялікага мастацтва, ніхто ня шукае новых шляхоў, бо... і так добра: пэнсыю плоцяць, паёк даюць, публіку ў тэатр (безплатную) напхнуць профэсыянальныя саюзы. Аднак зацікаўленьне тэатрам паміж моладзьдзю відаць вялікае. Горнуцца на беларускую сцэну новыя маладыя сілы —ўзгадоўваецца новае пакаленьне актораў. Пісьменьнікі і непісьменьнікі залiваюць тэатральную канцэлярыю хваляй сваіх літэратурных „прадуктаў“, паміж якімі спатыкаецца вельмі мала твораў з мастацкай вартасьцю. Гэту надта багатую літэратурную прадукцыю выклікае і рэпэртуарны голад на правінцыі. Ня толькі мястэчкі, але і вёскі будзяцца да нацыянальнага жыцьця і, няраз уласнымі сіламі, без ніякае помачы, сялянскіе хлопцы і дзяўчаты, з якіх шмат хто ніколі ня бачыў тэатру, наладжываюць у памяшчэньні школы або ў якойсьці іншай хаце, вялікшай за звычайную, спэктакль. Можна сказаць, што гэтая тэатро-манія проста нейкае стыхійнае зьявішча. Адусюль нясецца ў Мьнск адзін кліч: дайце нам рэпэртуар! А Менск ня мае навет акуратнай газэтнай паперы, а ня то, каб друкаваць тэатральныя творы. Драматычныя аўторы распаўсюджваюць свае пьесы рукапісным спосабам, атрымоўваючы аўтарскі гонорар ахвотней натурай у форме добрага куска сала або мяшочка мукі...

Сяк ці так — работа ідзе. З гэтай літэратурна-драматычнай паводкі мала дойдзе да новых пакаленьняў і загіне ў моры забыцьця. Але аднак у сучасны мамэнт, запіхаючы рэпэртуарную дзіру, будзячы нацыянальнае ўсьведамленьне, гэты літэратурны высілак павінен вызываць толькі прыхільнасьць, бо гэтак гарэецца задзірванелая зямля, на якой — Бог дасьць — узойдзе ўсход нашай драматычнае літэратуры.

Кажучы аб рэпэртуары, трэба адзначыць той сумны факт, што дагэтуль вельмі мала зроблена перакладаў выдатнейшых твораў чужых літэратур. У апошнія аднак часы і ў гэтым напрамку пачалася праца.

Зрабіўшы гэты кароткі агляд тэатральнай работы ўва ўсходняй Беларусі і глянуўшы на тое, што робіцца ў нас, трэба сказаць, што надта мала. Галоўная труднасьць — грашавая. Нельга вымагаць ад актораў, каб яны працавалі дарма. Можна вымагаць гэтай ахвярнасьці толькі ад людзей, якія апрача сцэны маюць іншую крыніцу заробку. Але, калі захочам наладзіць запраўдны тэатр, зложаны з профэсыянальных сіл, дык трэба прывязаць людзей да аднэй толькі работы — тэатральнай, якая патрабуе шмат сіл, і энэргіі: працуючы ў тэатры, нельга распыляцца на некалькіх нівах працы.

Затым, тэатральная работа вымагае карнасьці і дысцыпліны. Ня можа быць дысцыпліны там, дзе людзі працуюць ахвярна, бо яны ня маюць фізічнай магчымасьці аддаць увесь свой час сцэне. Лёс і Рыжскі трактат прысудзілі Вільні, у якой пачаўся адраджэнскі наш рух, стацца цяпер другім

---

сваей моладасьці! Ня трэба так!.. Ну дык што ты аб гэтым думаеш? Згодна?

ЯДЗЬКА. Я сама ня ведаю... Я падумаю... Мо' ты і добра раіш...

ПАУЛІНА. Ну, ведама, што добра... Хаця покуль што. А пасьля, калі вашы інтарэсы паправяцца, возьмеце свайго малога ізноў да сябе да хаты. Толькі вось яшчэ адно: казала мне Ягодзінская, што ахрысьціць дзіця трэба... Яно ў вас, здаецца, яшчэ не хрышчонае?

ЯДЗЬКА. Яшчэ не. Не было калі, я-ж нядаўна толькі выйшла з дзіцянём з бальніцы..

ПАУЛІНА. Ну дык вось ахрысьцеце,—папрасіш мяне за куму,—і зрабі так, як я казала... Ну, і трэба мне ўжо ісьці, сьпяшаюся да Маневічовай... Ах, колькі клопату з гэтай лётэрыяй, ты проста не сьцяміш!... Але нічога не парадзіш. Гэта хрысьціянскі абавязак памагаць бедным... Але, ведаеш, іншы раз бывае і весела. Мы—бачыш— дасталі на лётэрыю з аднаго маёнтку жывую сьвіньню. Кожны хоча выіграць гэты фант, бо-ж сьвіньня гэта не жартачкі! Нясуць людзі няраз апошніе свае маркі, купляюць білецікі, каб выіграць сьвіньню, а мы робім гэтакае шахэр-махэр, што ніхто ня выіграе — сьвіньня застаецца да чарговай лётэрыі... Але ты толькі нікому не кажы, бо гэта вялікі сакрэт!... Ну, бывай здарова! (ц а л у ю ц ц а). Прыдзі калі да мяне! Ведаеш чым я цябе патрактую?—Я дастала запраўднай швайцарскай шоколяды... Прыдзі!.. Бывай здарова!...

ЯДЗЬКА. Бывай, Паўліначка! Дзякую табе за ўсё.

**Зьява 2.**

ЯДЗЬКА (адна).

ЯДЗЬКА (в а р о ч а е ц ц а д а б а л е і, a п і р а е н а ё й р у к і, і з а д у м л я е ц ц а). Хто ведае! Можа трэба зрабіць так, як казала Паўліна... Мо' гэтак узапраўды будзе лепей!... (б я ж ы ц ь д а к а л ы с к і). Мой малюсенькі, мой бедненькі сыночак!.. Сьпіць. Сьпі, анёлачак, сьпі! Мама твая нядобрая, хоча аддаць цябе ў прытулак, але ты ня гневайся, так трэба... Мама твая кожны дзень будзе прыхадзіць да цябе, будзе цалаваць цябе.. Сьпі, малюсенькі!...

**Зьява 3.**

ЯДЗЬКА і КОСТУСЬ.

Праз правые дзьверы высоўваецца галава Костуся. Ен яшчэ не апрануты.

КОСТУСЬ. Ці Васіля няма?

ЯДЗЬКА. Няма. А што вам?

КОСТУСЬ. Не... нічога... Я... выбачайце, што фатыгую... Ці гарбата яшчэ ёсьць?

ЯДЗЬКА. А ведама... У печы стаіць гарачы чайнік. Наліць вам?

цэнтрам беларускага жыцьця. Тут павінен утварыцца другі беларускі тэатр, які апрача Вільні будзе абслужываць Беларусь, апынуўшуюся на захад ад лініі Рыжскага дагавору. І тут, як ува ўсходняй Беларусі, мы бачым, што з кожным днём нацыянальнае ўсьведамленьне на правінцыі расьце. Трэба падтрымаць гэтае ўсьведамленьне, трэба гэтай рабоце памагчы, а нішто ня можа быць гэтулькі карысным, як тэатр. Успомнім толькі, колькі тэатр зрабіў для адраджэньня Чэхіі і Украіны!..

Зарганізаваны нядаўна ў Вільні драматычны гурток мае ўсе данныя на тое, каб стацца тым фундамэнтам, на якім можа паўстаць беларускі раз'ездны тэатр з пастаяннай сваей базай у Вільні. Трэба, каб наша грамадзянства зразумела ўсю вагу справы і дапамагла закладзінам тэатру. Мы народ бедны. У нас няма сваей багатай буржуазіі, якая магла-б нам даць мэцэнатаў мастацтва. У нас няма свайго ўраду, які субсыдыяваў-бы тэатр. Але ў нас ёсьць патрыятызм, грамадзянскае пачуцьцё і сьвядомасьць сваёй абязлоўяннасьці. Дыкжа ня шчодрымі дарамі мэцэнатаў, ня дапамогамі ўраду, а сваймі ўласнымі беднымі складчынамі можам зрабіць вялікае дзела і выпісаць, як чэхі на сваім Народным Дівадле гордые словы: народ сабе.

Ю. М.

# Да моладзі.

Młodość jest rzeźbiarka, co
wykuwa żywot cały...
Krasiński.

Хутка ўжо канчаецца вучобны год — і беларуская гімназія выпусьціць са сваіх муроў новы кадр сьвядомых беларусаў-грамадзян. Частка з іх пойдзе здабываць для сябе вышэйшую прафэсыянальную веду, а іншые ўжо цяпер стануць да самастойнага жыцьця і возьмуцца за грамадзкую працу.

І тых, і гэтых чакае цярністы шлях на беларускай ніве. Ня кажучы ўжо аб труднасьцях, з якімі спатыкаецца ўсялякая беларуская работа з боку тых, хто мае ўладу, крыж беларускага інтэлігэнта цяжкі праз тое, што ў нас не хапае людзей для ўсіх галін культурнага жыцьця. Нераз аднаму чалавеку прыходзіцца быць і пэдагогам, і коопэратарам, і журналістам, і сябрам розных беларускіх устаноў. Усюды, гдзе глянеш, работы шмат, усюды задзірванелая ніва чакае свайго ратая,—і той, у кім б'ецца шчырае беларускае сэрца, ня мае моральнай магчымасьці сядзець злажыўшы рукі...

Вы, маладое пакаленьне, прыходзіце на помач і на зьмену старым беларускім працаўнікам. І вас чакае той самы цярністы шлях, па якому прабівалася старое пакаленьне, але вам будзе ўжо куды лягчэй змагацца за сваю справу. У часы першай расейскай рэвалюцыі (1905 г.), калі іскарка беларускага адраджэньня толькі яшчэ заіскрацела, на людзей, якіе адважыліся клікаць грамадзянства да нацыянальнай беларускай работы, глядзелі з недавер'ям і ўсьмешкай, як на шалёных энтузьястаў. Але вось прыйшоў час, калі нашы суседзі пачалі разумець вагу беларускае справы, а нацыянальнае ўсьведамленьне шырокіх мас у хуткім часе дойшло да такіх разьмераў, што прыхільнікаў нашых радасна зьдзівіла, а ворагаў нашых напалохала.

Наш сялянскі народ будзіцца з векавога сну. Патрэбна яму інтэлігенцыя, яго духовые павады-

---

КОСТУСЬ. Калі ласка... (прасоўвае праз дзьверы руку са шклянкай).

ЯДЗЬКА (выймае з печы чайнік і налівае Костусю гарбаты). Вы сягоньня доўга спалі...

КОСТУСЬ. Хто сьпіць, той не грашыць... (напалову жартам). А што ёсьць жыцьцё? Можа гэтак сама толькі сон — як нехта сказаў...

ЯДЗЬКА. Ну, вы ўжо ад самага раньня мэлянхолічна настроены!.. Хочаце сахарыны?

КОСТУСЬ. Не, дзякую, маю кусок цукру... Гэта не мэлянхолія, пані Ядзя! гэта сумнае пераконаньне, што нікому я непатрэбны, што жыву я на сьвеце, як той павук у куце майго пакою: сядзіць сабе адзін і нудна тчэ шэрую павуціну, як шэра-бязколярные дні яго жыцьця.

ЯДЗЬКА. У вашым пакоі завялася павуціна? Як скончу гэту работу (паказвае на балею), дык прыду да вас са шчоткай, пачышчу.

КОСТУСЬ. Ня трэба, няхай!.. Пані! кажуць, што павук прыносіць шчасьце... Бывае, што часам я веру ў гэтакіе рэчы... Няхай сабе сядзіць!.. Можа за тое я здолею вырвацца з павуціны, што крэпка-густа абматала душу маю...

ЯДЗЬКА. Ад вас гэта толькі залежыць.

КОСТУСЬ. Ад мяне? О, не!

ЯДЗЬКА. А ад каго-ж?

КОСТУСЬ. Калі чалавек пад гіпнозам, ён ня здолее кіраваць сваей воляй.

ЯДЗЬКА. Кто-ж вас загіпнытызываў?

КОСТУСЬ. Два васількі... (глянуўшы працяжна на Ядзьку, хаваецца ў свой пакой).

## Зьява 4.

ЯДЗЬКА (адна), пасьля ВАСІЛЬ.

ЯДЗЬКА. Гм! Дзіўны чалавек. Прасунуў галаву праз дзьверы на адзін мамэнт, каб ўзяць гарбаты, а пасьпеў ужо наплесьці рознай філязофіі цэлую кучу... Зусім такі самы з глузду зьехаўшы, як мой Васіль... Мусіць ад учорашняй гарэлкі яшчэ не пратрэзвіўся...

Уваходзіць Васіль з хлебам і бутэлькай з малаком.

ЯДЗЬКА. А! ты купіў хлеба і малака?

ВАСІЛЬ. Але...—Я цяпер спаткаўся на вуліцы з тваей Паўлінай... Ці яна ў нас была?

ЯДЗЬКА. Але, і прынесла мне падарунак.. Глянь якое харошае паліто!

ВАСІЛЬ (аглядая паліто). Гм! Паліто важнецкае! Гэта добра... Тую кацавейку, што я для цябе пазычаў, можна ўжо будзе аддаць, бо баба лезе мне ў вочы, каб я хутчэй аднёс. Я-ж взяў толькі на пару дзён.

ры. Вы, Моладзь,—уся надзея і апора нашых сярмяжных братоў. Не шкадуйце сваіх сіл для сьвятой беларускай справы, з якой вы пазналіся і якую навучыліся любіць у сваей школе. Яшчэ многа работы. Для нас няскора яшчэ надыйдзе сёмы дзень—дзень адпачынку. Аддайцеся беларускай культурнай рабоце, бо яны адыны шлях да нашага Адраджэньня.

Быць можа, што людзі, з якімі вам прыдзецца йсьці поплеч, вашы таварышы, здрадзяць вас або апаганяць беларускую справу. Кожнаму з нас прыходзілася разачароўвацца ў людзёх. Кар'ера, злосьць, асабістыя парахункі—былі і заўсёды будуць найвялікшымі ворагамі ідэйнай работы. Але гэта толькі як пыл, каторы часова затуманіць кветку Ідэалу. Прыйдзе сьвежая раса і абмые кветку і яна стане прад намі ізноў ува ўсім сваім харастве.

Ваш ідэал—Беларускае Адраджэньне. Гэта ёсьць ваша пуцяводная зора, якая павядзе Вас праз жыцьцё. І калі ў вашай душы гэты ідэал застанецца чыстым, дык ніякіе брудные лапы ня здолеюць яго апаганіць.

Вы—Моладзь—рэзьбяры Новага Жыцьця. Тые формы жыцьця, якія выкуеце, вы аддасьцэ наступным пакаленьням. Няхай-жа далонь ваша моцна трымае долата, а молат ваш хай набярэ размаху, каб твор ваш сваей чыстасьцю, праўдай і харастваем быў якнайбліжэй Ідэалу.

Стары.

## Аднолькавые закіды.

Калі староны, якія вядуць з сабой спорку, стаўляюць адна аднэй закіды рознай ёмкасьці, дык лягчэй моʼ дайсьці да згоды, а прынамсі да ўзаемнага зразуменьня. Зусім інакш бывае, калі праціўнікі закідаюць адзін аднаму аднолькавые рэчы. Гэтак бачым у нас. Напрыклад, палякі выстаўляюць проці літвіноў як галоўны аргумэнт тое, што ніяк ня хочуць літоўскага над сабой панаваньня. Літоўцы сваей чаргой кажуць, што ніколі ня згодзяцца, каб была польская гегемонія палякаў у Літве. Жыды, дамагаючыся поўных правоў, хапаюцца аднолькавых повадаў і кажуць, што панаваньне якойсьці аднэй нацыянальнасьці ў краі будуць лічыць нарушэньнем сваіх грамадзянскіх правоў. Калі-б хто спытаўся нас, беларусаў, які наш пагляд на гэту справу, дык пачуўбы, што ўсялякая перавага ўплыву польскага ці літоўскага будзе таксама крыўдай для ўсяго беларускага народу, як крыўда нашых спрадвечных правоў. Навет жменька вялікарусаў ды й тая неахвотна бачыла-б у нас руплівасьць дужэйшых нацыянальнасьцяў краю заўладаць усімі справамі, адпіхаючы ў бок меншасьці. Вось-жа з усіх бакоў аднолькавые закіды! І ў гэтым ёсьць вялізная труднасьць. Справа йдзе па шляху ненатуральным, хваравлівым, патолёгічным... Мы ўсе ўпёрліся ў тупік, б'ёмся галавой аб сьценку, хочам ісьці ўперад, аднак нічога з гэтага ня выходзе. І ня першы ўжо год, як мы знаходзімся ў гэтакім палажэньні. Ці будзем доўга гэтак блытацца?—Хай Бог крые!...

Але як выйсьці з гэтага палажэньня?

---

ЯДЗЬКА. Ну і аддай! Сягоньня яшчэ аддай!.. Ах, каб ты ведаў, якая Паўліна добрая! Як яна шчыра хоча нам дапамагчы! Яна казала, што ёсьць для цябе служба. Трэба толькі, каб ты зайшоў да яе мужа, а ён ужо цябе устроіць.

ВАСІЛЬ (з моршчыўся). Не пайду я да гэтага дурня.

ЯДЗЬКА (пляснуўшы рукамі). Вось маеш табе! Для цябе ўсе дурні, толькі ты адзін разумны!.. Людзі самі прыходзяць да цябе з добрым сэрцам, а ты толькі: дурні ды дурні. Бач, адзін разумны які!..

ВАСІЛЬ. Ды апроч таго ня маю часу: у вечары раблю корэкту і пішу, а раніцай я заняты ў беларускім камітэце. Там шмат работы, бо рук да працы няма. Я сягоньня абяцаўся, што кожны дзень буду прыходзіць памагаць.

ЯДЗЬКА (злая). Вось! Ты заўсёды гэтак! Там, дзе можна зарабіць грошы, дык там ты на работу ня пойдзеш, а ў якіесь свае дурные камітэты ахвотна ходзіш дарма.

ВАСІЛЬ (строга). Ядзька! Не дуры галавы! не твая справа! Я ведаю, што раблю, а ты калі ласка, ня сунь свайго носу...

ЯДЗЬКА. Як гэта: ня сунь свайго носу?!... Ад Костуся столькі напажычаліся, што сорамна ўжо глянуць яму ў вочы, у хаце голад, холад, для дзіцяці няма за што купіць малака, людзі чужые хочуць табе памагчы, даюць службу, а ты адкідаеш іхнюю помач!!

ВАСІЛЬ. Малако ёсьць, я прынёс...

ЯДЗЬКА. Ну дык добра, што сягоньня ёсьць, а што будзе заўтра, а што позаўтра? Не заўсёды-ж гэтакімі жабракамі жыць, як цяпер! Усюды навокал даўгі, нельга на вуліцу паказацца бо крамніцы за палу хватаюць, каб аддаць грошы, (цішэй) у сваей кватэры — ў Костуся і то чорт ведае колькі напажычаліся... А тут якраз Паўліна, як з неба звалілася... „Няхай — кажа — прыйдзе заўтра да майго мужа, дык дастане добрую службу“ — а ён ня хоча... (ірон.) „Беларускіе справы“! „Часу не маю!“... Ня бось, цябе твае гэтые беларускіе справы не накормяць!

ВАСІЛЬ. І ня трэба.

ЯДЗЬКА. Табе моʼ й ня трэба, а дзіцяці даць есьці трэба... Слухай: я неразумею, ці ты варыят, ці ты гэтакі... подлы чалавек!

ВАСІЛЬ (усадзіўшы рукі ў кішэнь, падыходзіць да яе). Скажы ты мне: знала ты мяне перад шлюбам, ці не? Ведала ты, які я чалавек, ці не? Ведала? Ну дык чаго-ж выхадзіла за мяне замуж? Гэтакім „вар'ягам“ я заўсёды быў, такім самым я і цяпер, і гэтакім ужо здохну. Мяне ўжо не пераробіш!

ЯДЗЬКА. А чорт цябе хіба пераробе! Я калісь думала, што з часам ты набярэш розуму і ня

На наш пагляд выхад знайшоўся-б, калі-б справу будучыні нашага краю абапёрці выключна на дэмакратычных элемэнтах усіх тутэйшых народаў. Ведама, што страх нашых нацыянальных меншасьцяў, каб не апынуцца пад панаваньнем польскім, мае свае падставы, калі „ля капітанскага мастка на нашым караблі" круцяцца эндэкі, „жубры", нацыяналісты ды інш. Другой падставай гэтага страху ёсьць тое, што, ня кажучы аб дэмакратах, навет тутэйшые сацыялісты ня ўсе чысты ад шовіністычнай заразы, лішняга нацыяналізму і захопных лятуценьняў. Дык ці-ж трэба дзівіцца, што дзеля гэтага і яны не даюць гарантыі фактычнай роўнасьці ўсіх жыхароў нашага краю.

Вось-жа наша мэта да згоднай творчай працы і лепшай супольнай долі павінна мець два напрамкі: 1) вядомых шкоднікаў згоднага жыцьця, як эндэкі, „жубры", лібэральные нацыяналісты, трэба бязумоўна адсунуць ад кіраваньня краёвымі справамі, а 2) нам самім трэба перагледзіць сваю праграму і тактыку, каб у іх ніякага дрэннага не засталося „квасу", а таксама выключыць тыя элемэнты, якіе хацелі-б дэмократызм ці сацыялізм злучыць з нацыяналізмам або імпэрыялізмам. Калі ў нас пачнецца праца ў гэтых напрамках, дык памянёньне аднолькавые закіды акажуцца непаразуменьнем, якое, моў імгла перад усходам сонца, разьвеюцца перад узаемнаю абятніцаю дэмократычных элемэнтаў усіх нацыянальнасьцяў, што ніводзін з народаў не захоча панаваць над іншым.

Gardiner.

Францішк Аляхновіч.

*Ахвярую Купале.*

# ЗАРУЧЫНЫ ПАЎЛІНКІ

пьеска ў 1 акце
с песьнямі і скокамі.

АСОБЫ:

Сьцяпан Крыніцкі, засьцянковы шляхціц, 45 г.
Альжбета, яго жонка, 40 г.
Паўлінка, дачка Крыніцкіх, 19 г.
Пранцісь Пустарэвіч, сваяк Крыніцкіх, 50 г.
Агата, яго жонка, 43 г.
Якім Сарока, вучыцель, 25 г.
Адэлька, прыяцялька Паўлінкі, 20 г.
Госьці, музыкі.

Сцэна наладжана гэтак сама, як і у „Паўлінцы" Купалы, значыцца: абшырная сьвятліца з дзьвярмі галоўнымі і у бакоўку. Вокны выходзяць у сад. На сцэне стол, лавы, табурэцікі, куфар. На сьценах абразы.

## Зьява 1.

Паўліна і Альжбета.

ПАЎЛІНКА

(сядзіць адна задумаўшыся ля вакна і глядзіць уперад).

будзеш гэтакі здурэўшы. Кожны, як ажэніцца, дык пасталее.

ВАСІЛЬ. А я думаў, што ты будзеш добрай маей прыяцелькай, вернай таварышкай, спагадаліцай маей у змаганьні, памоцніцай у рабоце!...

ЯДЗЬКА. Чаго-ж ты хочаш? Каб я разам з табой пісала твае дурные драмы? Не патраплю я пісаць драмы!

ВАСІЛЬ. І ня трэба... Але я хачу, каб твая душа адклікнулася на тое, што для мяне самае важнае, што для майго жыцьця так патрэбна, як паветра...

ЯДЗЬКА. Ад мяне ты гэта вымагаеш, а сам чаму ты не дбаеш аба мне? Я працую горш кухаркі якойсь, я сама мыю падлогу, сама мыю бялізну гатую абед, шкарпэткі табе латаю, ніякай працы не чураюся — во глянь, якіе ў мяне рукі парабіліся! — а цяпер, калі ёсьць магчымасьць зарабіць грошы і жыць ляпей — ты ня хочаш, Усё толькі якіесь фавабэры: таго ён ня хоча, гэта яму не выпадае... А за бараду ў чужым доме людзей тармашыць — гэта дык выпадае!

ВАСІЛЬ. А ты скуль-жа аб гэтым ведаеш?

ЯДЗЬКА, Вось ведаю. Ты мне нічого не казаў, а я ведаю!... Але! на гэтакіе штукі дык ты майстар.

ВАСІЛЬ (успамін аб гэтым здарэньні крыху развесяляе яго). Але! гэта было лоўка!.. Добрая сцэна!.. А бо-ж разьвлаваў мяне гэты гад, што ўжо не ў магату было... Ха-ха!.. Бо ёсьць людзі, бачыш, якіх не перакашаеш доказамі слова, але ударыўшы палкай па галаве або вытузаўшы за бараду... Тады гэтакі крэпкалобы тып думае сабе: „о, мусі гэта справядлівая справа, калі за яе чалавек так крэпка бьецца!" Ха-ха!..

ЯДЗЬКА. Але сьмейся, сьмейся! А вось праз гэтакіе твае штукі людзі цябе й не паважаюць... Ведама, скандаліст! Хто-ж такога будзе паважаць! Кажуць, што ты быў тады пьяны...

ВАСІЛЬ. Што?! О, гэта брахня!.. Ага! вось значыцца як подлые чалавечкі патрапяць апаганіць свайго праціўніка! Пьяны, значыцца тое самое, што вар'ят, значыцца такога чалавек можна аплеваць, абсьмяяць, утаптаць у балота, у гразь.—Ну, годзі ужо аб гэтай подласьці, кіньмо ўжо сварыцца!.. Шкада часу!... Я з інашай мэтай забег цяпер да хаты... Да друкарні яшчэ рана (глядзіць на гадзіньнік), маю час, трошкі папішу... (раскладвае паперы). Усё трэба перарабіць, усё ад самага пачатку, усё ня так, усё заслаба,— трэба, каб было моцна, каб як кіём на галаве крэпкалобым людзём! (сядае пры стале і піша).

(Працяг будзе).

АЛЬЖБЕТА
(уваходзіць).

Паўлінка! Што-ж ты тут сядзіш, вочы вытарашчыўшы, як сава! Вось лепш ідзі, памажы мне,— работы шмат..

ПАУЛІНКА.

Ах, мамка! Не чапайце мяне! Не ў галаве мне цяпер работа!

АЛЬЖБЕТА.

А што-ж у цябе ў галаве?— Якім Сарока?..— Эх, Паўлінка! лепш выкінь яго з галавы! Калі яго пасадзілі ў вастрог, дык ужо хутка з іхніх кіпцяў ня выкарабскаецца. Папасьці туды лёгка, але вырвацца трудна.

ПАУЛІНКА.

Ах, мамка! ён-жа нічога благога не зрабіў. Ен толькі хацеў дабра для народу!

АЛЬЖБЕТА.

Э, нешта мусіць гэткае было, за што трэ'было пасадзіць у турму. Без агня дыму ня бывае. Кожны з іх гэтак кажа, што хоча дабра для народу, а тут—бач—адны кажуць, што намаўляў, каб паноў выганяць, а іншые — што, кажа, бяз шлюбу трэба жыць! Як-жаж так: бяз шлюбу або без паноў жыць?! Гэта неяк непалюдзку.

ПАУЛІНКА.

Значыцца, па вашаму, мамка, пан Быкоўскі разумнейшы і лепшы за Якіма, калі хацелі мяне замуж за яго аддаць?

АЛЬЖБЕТА.

Дык не!.. Ведама-ж, што пан Быкоўскі нейкі без аднэй клепкі--брахун ды ашуканец. Нагаварыў тут, нахваліўся, а ўва ўсей гэтай гутарцы, як кажуць, зярняці праўды не было... Я дык адразу спазнала, які ён чалавек, але вось бацька ўпёрся: хоча, кажа, мець зяця шляхоцкага роду. Хоць ты кол яму на галаве цяшы, нічога не памагала, покуль вось не здарылася гэтая авантура з тваймі клумкамі... Але кажы-ж, калі ласка, як-жа ён усё гэта выцягнуў з хаты? Гдзе-ж ты была? Няўжож ня бачыла?

ПАУЛІНКА
(засароміўшыся).

Эх, мамка, не пытайцеся!

АЛЬЖБЕТА.

Чаму-ж не пытацца?.. (дагадліва, дабрадушна). А, хітрая ты дзяўчына! Ты мусіць зумысьля нешта гэтак наладзіла, каб абсьмяшыць пана Быкоўскага і раззлаваць бацьку на яго... Ну, нічога! Са мной не рабі сакрэтаў. Я-ж твая маці, а ты адна ў мяне дачушка. Зла я для цябе не жадаю... Воля Боска, ўсё добра будзе... Ня сумуй!... (выходзіць).

**Зьява 2.**

ПАУЛІНКА
(адна).

Ах, Божа! Сэрцэйка так баліць, моў выскачыць з грудзей хоча і ляцець да таго, каго гэтак узлюбіла!.. Але як яму памагчы? што зрабіць? Можа гэтыя зьвяры майго Якімку і ўзапраўды пасадзілі ў вастрог на вечныя часы і прападзе ён там марна! (Прыкладае рукі да грудзей). Ах, сэрца мае! сьціхся! Ня бейся у грудзёх, як птушка зачыняная ў клетцы.

(пяе):

Супакойся, сэрцэйка, не дрыжы!
Няўжож з грудзей вырвацца хочаш ты?

Не пара цяперака сьлёзы ліць
Дч ў бязьсільнай роспачы ўсьцяж тужыць.

Хацела-б я міламу памагчы,
Вызваліць з ягонай тэй бяды.

Ах, дарма ўсё думку думаю,
Нічагусянькі не прыдумаю.

Краты там жалезные у турме
Не ўзламае мілы мой, мусіць, не.

Навакол высокія там муры
Пахавалі мілага без пары.

Раданькі ніякае, ах, няма,
Я бязьсільна дзеўчына, я—адна.

Дык-жа сьцішся, сэрцэйка у грудзёх,
Хай з мяне апошні ўжо выйдзе ўздох.

**Зьява 3.**

Паўлінка і Адэлька.

АДЭЛЬКА
(убягае).

Паўлінка! Каб ты ведала, якую я вестку прынясла!.. (Паўлінка сумна глядзіць на Адэльку і нічога ня кажа). Ну, ня сумуй: Якім пісаў!

ПАУЛІНКА.
(ажыўляючыся).

Якім пісаў?!

АДЭЛЬКА.

Але. Праз вакно выкінуў пісульку. Хлопцы знайшлі і прынесьлі.

ПАУЛІНКА.

Ну што, што ён піша? Значыцца жыў яшчэ?

АДЭЛЬКА.

Ну чаго яму паміраць!.. Піша перш па-перш што ў яго ў хаце зрабілі вобыск: перагледзілі ўсе паперкі і ўсе кніжкі. А на кожнай кніжцы было надрукована „дазволена цанзураю“. Бо, бачыш, калі на кніжцы няма гэтага „дазволена“, дык кніжка благая, а калі ёсьць—дык добрая.Ператрасьлі

ўсё, навет у падушках ды пад ложкам шукалі, а без „дазволена“ не знайшлі... А пасадзілі яго, кажа, для страху, каб значыць памягчэў і сказаў усю праўду,—а сягоньня, кажа, выпусьцяць яго ўжо на волю.

ПАУЛІНКА

(радасна).

О, Божанька ты мой! Сягоньня мой Якімка будзе вольны! (цалуе Адэльку). Адэльцянька! Дзякую табе за гэту вестку!.. Але гдзе-ж, у каго-ж гэтая пісулька?

АДЭЛЬКА.

У майго брата Цыпрука. Тамака сабраліся хлопцы і чыталі.

ПАУЛІНКА.

Пойдзем да яго! Пойдзем хутчэй—я сама хачу яшчэ прачытаць!

АДЭЛЬКА.

Пойдзем, Паўлінка! (Абедзьве хутка выбягаюць з хаты).

(Працяг будзе).

## Вясна.

(з Каспровіча).

Здраствуй, красная вясна,
Маці вясельля!
Здраствуй, красная вясна,
Глянь у ваконца.
Белай сыпеш ты рукой
Дываны з зельля,
Белай паліш ты рукой
Раніцай сонца.

Чысты шлеш ты ручэй
На нівы нашы;
Чысты шлеш ты ручэй,
Каб сьвет напіўся.
З крэпкай думы разбудзі
Увесь сьвет нашы,
З крэпкай думы разбудзі,
Каб не забыўся.

Холад сыпнула зіма
На нашу чэлядзь,
Холад сыпнула зіма,
Сьцюжай скавала.
Скована сьцюжай душа
У сілы ня верыць..
Скована сьцюжай душа.
Многа ня ждала.

Рукі цягнуцца к канцу—
Лучэй тых злотных.
Рукі цягнуцца к канцу
Блішчыць там сонца.
Зьбіў нас лёсу прыгавор,
няма рук ахвотных,
Зьбіў нас лёсу прыгавор
Цяжка без конца.

Барзда вініш нас вясна —
Мы з бою бледны.
Барзда вініш нас вясна...
Шчасьця ці маім?
Дай нам гояшчы ручэй,
Ён нам патрэбны,
Дай нам гояшчы ручэй,
Бо паміраім.

Здраствуй, красная вясна,
Маці вясельля!
Здраствуй, красная вясна,
Глянь у ваконца.
Белай сыпеш ты рукой
Дываны з зельля,
Белай паліш ты рукой
Раніцай сонца.

А. Гурыновіч.

## Пісьмо у рэдакцыю.

Паважаны Гаспадару Рэдактару!

У газэтах было выказана зьдзіўленьне, чаму на беларускай вечарыне 21 красавіка пялі не беларускія песьні. Дзеля выясьненьня гэтага прашу надрукаваць вось гэткіх некалькі слоў.

Арганізатары вечарыны пастанавілі зьвярнуцца да т. зв. Славянскага хору з просьбай сьпяяць на вечарыне некалькі беларускіх песьняў. Лічылі зусім нормальным, што на беларускай вечарыне будуць пяяць адны беларускія песьні, так сама як гэта лічаць нормальным ліцьвіны, палякі, жыды і інш., ставячы звычайна на сваіх вечарынах толькі свой нацыянальны рэпэртуар. Гэтаму не перашкаджае й тое, што на беларускай вечарыне можа быць і не адна толькі беларуская публіка, бо кожны, хто йдзе на беларускую вечарыну, хоча чуць там беларускае, а не інтэрнацыянальнае. Калі ж гэты інтэрнацыяналізм толькі ў маштабе б. расейскае імпэрыі, дык і паготове. Аднак „Славянскі хор“ пяяць адны беларускія песьні адмовіўся. Арганізатары аб гэтым даведаліся толькі пасьля канцэртнага аддзелу на вечарыне і дзеля гэтага не маглі адмовіцца ад учасьця „Сл. х.“ Ня ведаючы також нічога аб гэтым, як адзін з загадчыкаў, пасьля таго, як хор на вечарыне прапяяў не беларускую песьню, у корэктнай форме я зьвярнуўся да старшыні хору з просьбай пяяць далей беларускія песьні. Адказам на гэта была дэманстрацыя хору (закрыцьце завесы і інш.) і не пяяньне потым зусім беларускіх песьняў.

Цікаўна, што з паміж харыстаў і харыстак, якія адмовіліся пяяць беларускія песьні і прымалі ўчасьце ў антыбеларускай дэманстрацыі хору, некаторыя маюць нахэпнасьць называць сябе сьвядомымі беларусамі.

З пашанаю Я. Станкевіч.

29. IV. 21.

Друкарня „ДРУК“, Вострабрамская, 5. — Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.